І ГЭТА ТАК!

# Гомельскія НАВІНЫ

спецвыпуск - 02 Кастрычнік 2011

Інфармацыйны бюлетэнь HOMIEL NEWS

Боритесь с хулиганством!

Работник милиции, решительно пресекай всякое нарушение общественного порядка. Помни, что безнаказанность поощряет хулиганов и других нарушителей.

## Случак адштурхаў і зняважыў Замая

### Савецкі і гомельскі абласны суд падцвярджаюць

**Талер, еўра або расійскі рубель?**
стар. 3

**Забарона гульнёвага бізнэсу, пытанне легалізацыі прастытуцыі і лёгкіх наркотыкаў**
стар. 5



# Ігар Случак не пагаджаецца быць хуліганам

***Гомельскі дэмакратычны актывіст Ігар Случак падаў у Гомельскі абласны суд скаргу на пастанову суда Савецкага раёна Гомеля.***

Случак быў затрыманы ў Гомелі супрацоўнікамі спэцназу 26 жніўня, напярэдадні свайго брыфінгу, на якім ён зьбіраўся ўзьняць пытаньне аб рэфармаваньні міліцыі. Трое сутак ён знаходзіўся ў ізалятары часовага ўтрыманьня ў чаканьні суду. 31 жніўня суд Савецкага раёну прызнаў яго вінаватым у дробным хуліганстве (нецэнзурнай лаянцы) і пакараў трыма суткамі арышту. Усе абвінавачаньні былі пабудаваныя на паказаньнях гомельца Сяргея Замая, які сьцьвярджаў, што Случак на вуліцы штурхнуў яго і аблаяў матам.

Пастанову раённага суду Случак лічыць несправядлівай, ён не прызнае сваёй віны і сьцьвярджае, што яна не была даказаная ў судзе. "Пастанова вынесеная толькі на падставе сьведкі абвінавачаньня Замая і ўнутранага перакананьня судзьдзі, — заявіў ён БелаПАН. — Нягледзячы на тое, што былі знойдзеныя рознагалосьсі ў рапарце, пратаколе і пастанове, суд ня ўгледзеў якіх-небудзь падставаў сумнявацца ў тлумачэньнях сьведкі Замая. Суд таксама не ўлічыў фактаў, якія характарызуюць асобу сьведкі, які абвінаваціў мяне ва ўчыненьні супрацьпраўнага дзеяньня і які зьяўляецца цэнтральным удзельнікам працэсу — на яго паказаньнях у дачыненьні да мяне будавалася абвінавачаньне".

У скарзе актывіст указвае: на судзе сьведка Замай прызнаў, што стаяў на ўліку ў інспэкцыі па справах непаўналетніх, прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасьці і "ў значнай колькасьці" ўжывае алькагольныя напоі.

Акрамя таго, раённы суд адмовіўся далучыць да справы матэрыялы, што характарызуюць асобу сьведкі, якія былі знойдзеныя ў адкрытым доступе ў сацыяльнай сетцы "УКантакце". Гэтыя фотаматэрыялы Случак дадае да скаргі ў абласны суд.

Аўтар скаргі просіць удакладніць, чаму Замай не знаходзіўся на працоўным месцы падчас нібыта ўчыненага ім, Случакам, правапарушэньня, а таксама запатрабаваць характарыстыкі зь месцаў яго вучобы. Ён таксама цікавіцца, чаму Замай ня быў агледжаны на прадмет алькагольнага і наркатычнага ап'яненьня. "Улічваючы асобу сьведкі, можна выказаць меркаваньне, што я быў проста абгавораны зь невядомых мне прычын", — піша актывіст.




*Крыніца: http://www.svaboda.org/content/article/24317461.html*

# Нацыянальная валюта і грашовая сістэма Беларусі. Талер, еўра або расійскі рубель?

*Аляксандр Аляхновіч , эксэпрт*

***Неадэкватная палітыка нескарыстаных рэсурсаў.***

Перад адказам на пытанне, якая валюта найлепш пасавала б сучаснай Беларусі, варта патлумачыць сэнс манетарнай палітыкі і яе ўплыў на эканоміку.

Манетарная і фіскальная палітыкі - асноўныя складнікі эканамічнай палітыкі дзяржавы. Галоўнай мэтай грашовай палітыкі з'яўляецца забеспячэнне стабільнасці нацыянальнай валюты. За гэта адказвае цэнтральны банк, які рэгулюе грашовую масу ў эканоміцы і валютныя курсы. Сусветны досвед паказвае, што ў доўгатэрміновай перспектыве эканоміка найхутчэй развіваецца пры нізкай інфляцыі – у межах 0-3% на год. Высокая і нестабільная інфляцыя замінае прадпрымальніцтву. Няўпэўненасць ў памерах росту цэн павялічвае рызыкі вядзення бізнесу, што адбіваецца на коштах тавараў і паслуг. Чым вышэйшы ўзровень інфляцыі, тым вышэйшыя рызыкі.




На маю думку, на цяперашнім этапе эканамічнага развіцця Беларусь не павінна адмаўляцца ад уласнай валюты. Высокую інфляцыю і сталае абясцэньванне беларускага рубля можна і належыць перамагчы пры існай грашовай сістэме. Ёсць яшчэ шмат нескарыстаных рэсурсаў, якія мае нацыянальная манетарная палітыка. Перад усім неабходнаўвесці гарантаваную Канстытуцыяй незалежнасць Нацыянальнага банка ад органаў палітычнай ўлады. Інакш мы надалей будзем сведкамі папулісцкіх передвыбарчых заяваў прэзідэнта (прыклад з нядаўняга мінулага – гісторыя пра сярэдні заробак у 500$), якія мусіць выконваць Нацбанк. Неадэкватная палітыка Нацбанка вядзе потым да такіх вось крызісаў, якія мы сёння назіраем – калі рэзкі рост цэн суправаджаецца валютнай панікай.

Толькі пасля стабілізацыя інфляцыі і курсу беларускага рубля на працягу некалькіх гадоў можна будзе разважаць пра ўваходжанне ў зону еўра ці расійскага рубля. Прыняцце рэгіянальнай (расейскі рубель) альбо міжнароднай (эўра) валюты пры пэўных варунках можа дадатным чынам паўплываць на эканоміку, найперш апасродкам павелічэння экспарту і замежных інвестыцыяў. Таму карысць для Беларусі ад прыняцця адзінай валюты будзе залежаць ад структуры беларускага экспарту.

*Крыніца: http://www.prahrama.by/by/node/126*

НАРОДНАЯ ПРАГРАМА
www.prahrama.by

# Забарона гульнёвага бізнэсу, пытанне легалізацыі прастытуцыі і лёгкіх наркотыкаў

*Паўлюк Канавальчык, эксперт*

***"Дыснэйлэнд" для дарослых: казіно, путаны, кафэшопы…***

Шматвекавы сусветны досвед паказвае, што забараняльная палітыка не вырашае праблему, а толькі пагаршае яе і прыводзіць да наступнага:

1. Адбываецца крыміналізацыя грамадства. З'яўляецца вялікая колькасць людзей, што займмаецца гэтымі, незаконнымі, відамі дзейнасці, у выніку чаго ў краіне назіраецца рост злачыннасці.

2. Фармуецца арганізаваная злачыннасць, якая "пакрывае" гэтыя забароненыя "забавы", што прыносіць "барышы" крымінальным структурам.

3. Дзяржава тым часам вымушана выдаткоўваць агромныя бюджэтныя сродкі на ўтрыманне цэлай арміі спецслужб для барацьбы з крыміналітэтам, які яна сама ўскосна ці наўпрост спарадзіла. У выніку легалізацыі гэтых відаў дзейнасці дзяржбюджэт будзе атрымліваць прыбытак, якія зараз сілкуюць крыміналітэт.

Іншая пазіцыя падаецца некаторым радыкальнай – легалізаваць гэтыя спрадвечныя людскія слабасці. Варта дакладна разумець, што пад паняццем "легалізацыя" не маецца на ўвазе ўседазволенасць, як мяркуе большасць абывацеляў. Легалізацыя азначае стварэнне пэўных прававых інстытутаў па кантролі над названымі відамі дзейнасці з мэтай падтрымання грамадскага парадку, а таксама эканамічных умоваў для іх вядзення. Менавіта гэтую акалічнасць неабходна ўсвядоміць для разумення пазіцыі прыхільнікаў легалізацыі.

***Рэзервацыя для гульняманаў***

Гульнёвую залежнасць (лудаманію) некаторыя параўноўваюць з залежнасцю наркатычнай, а таму не менш сацыяльна небяспечнай. Таму гульнёвы бізнэс варта абмежаваць, але зрабіць гэта па прыкладу Расіі і ЗША, то бок стварыць у Беларусі асобную гульнёвую зону, ад чаго чакаецца наступны станоўчы эфект:

- Гэта дазволіць вынесці гульнёвыя аўтаматы і казіно з населеных пунктаў, што істотна скароціць тэмпы развіцця лудаманіі як сацыяльнай эпідэміі, асабліва сярод моладзі і падлеткаў.
- Дзяржава і падатковыя органы атрымаюць магчымасць больш эфектыўна кантраляваць гульнёвы бізнэс у інтарэсах грамадства, папаўняючы пры гэтым бюджэт краіны.
- Акрамя таго, канцэнтрацыя ўсіх казіно і гульнёвых устаноў у адным кампактным месцы (накшталт Манака альбо Лас-Вегаса) будзе спрыяць развіццю ў Беларусі гульнёвага турызму, у тым ліку замежнага.

***Заплаці падаткі – і спі спакойна***

Нягледзячы на ўсю пікантнасць тэмы ды стэрэатыпную кансерватыўнасць нашага грамадства, ідэя легалізацыі прастытуцыі знаходзіць разуменне не толькі сярод шараговых беларускіх грамадзянаў, але і ў высокапастаўленых чыноўнікаў і прадстаўнікоў дэпутацкага корпусу. Легалізацыя прастытуцыі прадугледжвае пэўнае дзяржаўнае рэгуляванне гэтай дзейнасці для захавання зручнага, на думку грамадзян і дзяржслужбоўцаў, грамадскага парадку. Можна вылучыць наступныя пазітыўныя эфекты, да якіх прывядзе легалізацыя прастытуцыі:

- Адбудзецца дэкрыміналізацыя сферы заняцця прастытуцыяй, то бок вывад значнай часткі сэкс-індустрыі з-пад кантролю крымінальных структур.
- Дзяржава атрымае магчымасць кантраляваць сферу сэкс-індустрыі, вызначаць месцы



ўмовы, як і дзе можна займацца прастытуцыяй, з максімальным клопатам пра інтарэсы ўсяго грамадства.

- Дзяржава атрымае значны дадатковы даход у бюджэт ад падаткаабкладання гэтай сферы дзейнасці.
- Афіцыйна зарэгістраваныя работнікі сэкс-індустрыі, г.зн. тыя, хто плаціць падаткі, атрымаюць усе правы грамадзян, якія працуюць: права на медыцынскае, сацыяльнае і пенсійнае страхаванне і г.д.
- Прастытуткі, якія працуюць афіцыйна, атрымаюць юрыдычную абарону з боку дзяржаўных органаў у выпадку замаху на іх грамадзянскія і "працоўныя" правы з боку крыміналу, недабрасумленных кліентаў і інш.
- У выніку рэгулярнага медыцынскага кантролю над прастытуцыяй знізіцца рызыка зараджэння ВІЧ/СНІД ды іншымі захворваннямі, якія перадаюцца палавым чынам, што пазітыўна адаб'ецца на эпідэміялагічнай сітуацыі ў грамадстве.
- Скароціцца трафік людзей з мэтай сэксуальнай няволі з ліку беларускіх грамадзянаў, які звязаны, перш за ўсё, з пастаўкамі "жывога тавару" у замежныя падпольныя бардэлі.
- Акрамя таго, будуць фармавацца цывілізаваныя формы развіцця г.зв. "сэкс-турызму", які так ці інакш запатрабаваны сярод замежных гасцей, што таксама будзе спрыяць росту бюджэтных паступленняў.

***Што азначае "legalize" у межах закону***

Пытанне легалізацыі г.зв. "лёгкіх наркотыкаў" даўно дыскутуецца на міжнародным узроўні аж да Глабальнай камісіі ААН. Пад "лёгкімі наркотыкамі" маюць на ўвазе, перш за ўсё, марыхуану, якая, дарэчы, ані паводле "Адзінай канвенцыі ААН аб наркатычных сродках", ані нават паводле драконаўскага заканадаўства ЗША, пад вызначэнне "наркотык" не падпадае. Марыхуана не выклікае фізічнай залежнасці і не нясе сацыяльнай небяспекі. У большасці краін Еўропы, Канадзе, Аўстраліі і некаторых штатах ЗША ужыванне марыхуаны даўно не з'яўляецца крымінальна каральным злачынствам.

Аналізуючы замежны пазітыўны досвед, можна канстатаваць, што легалізацыя марыхуаны мае наступныя перавагі:

- Будзе дэкрыміналізавана ўжыванне і захоўванне марыхуаны ў вызначаных законам колькасцях, што значна зменшыць лік асуджаных і пераследаваных па артыкулах аб незаконным абароце наркотыкаў.
- Грамадзяне пры ўжыванні марыхуаны будуць агароджаныя ад кантактаў з крымінальным асяроддзем, што займаецца незаконным абаротам моцнадзеючых наркатычных рэчываў ды іншай злачыннай дзейнасцю.
- Дзейнасць адмысловых курыльных установаў, што будуць існаваць пад пільным вокам органаў наркакантролю, будзе прыносіць значныя даходы ў бюджэт.
- Нарэшце, будуць рэабілітаваныя каноплі звычайныя, якія з'яўляюцца каштоўнай сельскагаспадарчай культурай, што стала ў свой час ахвярай у барацьбе з наркаманіяй.

***

Пакуль у Расіі падумваюць пра будаўніцтва горада для чыноўнікаў, нам варта паклапаціцца пра стварэнне Горада Спакусы – гэткага "Дыснэйлэнда" для дарослых, дзе будзе размешчана гульнёвая зона, дазволена прастытуцыя і легалізавана ўжыванне марыхуаны. Ад гэтага наша грамадства, у тым ліку і кансерватыўная яго частка, толькі выйграе.

*Крыніца: http://www.prahrama.by/by/node/384*



***Пытанні для дыскусіі:***

1. Ці варта вынесці ўсе казіно і залы гульнявых аўтаматаў у адмысловую гульнявую зону па прыкладу Расіі і ЗША?
2. Ці ёсць неабходнасць у легалізацыі прастытуцыі з мэтай дэкрыміналізацыі сферы аказання сэксуальных паслуг?
3. Ці зможа легалізацыя прастытуцыі стаць перашкодай для гандлю людзьмі з мэтай іх сэксуальнай эксплуатацыі?
4. Ці варта дэкрыміналізаваць ужыванне лёгкіх псіхатропных рэчываў (г.зв. "лёгкіх наркотыкаў"), то бок вывесці іх з-пад дзеяння крымінальнага права?
5. Ці паўплывае легалізацыя лёгкіх псіхатропных рэчываў (г.зв. "лёгкіх наркотыкаў") на ўзровень злачыннасці, звязанай з нелегальным абаротам наркотыкаў?
6. Ці мае эканамічны сэнс стварэнне спецыяльнай зоны забаваў для дарослых, дзе будзе дазволены гульнявы бізнэс, а таксама легалізаваная прастытуцыя і ўжыванне лёгкіх псіхатропных рэчываў (г.зв. "лёгкіх наркотыкаў")?

# Случак працягвае абскарджваць прысуд раённага суда Гомеля

***Студэнт юрфаку Тартурскага ўніверсітэта Ігар Случак адмыслова прыехаў у родны Гомель, каб працягнуць абскаджваць прысуд суда Савецкага раёна Гомеля, які пакараў хлопца ў жніўні трыма суткамі адміністрацыйнага арышту.***

Міліцыя звінаваціла студэнта ў дробным хуліганстве. 26 жніўня побач са сваім домам Ігар нібыта штурхнуў плячом 21-гадовага слесара лакаматыўнага дэпо Сяргея Замая, ды яшчэ аблаяў. Усё гэта адбылося напярэдадні прэс-канферэнцыі, прысвечанай абмеркаванню рэформы Міністэрства ўнутраных спраў, якую арганізоўваў у Гомелі Ігар Случак. Аб тым, што гэта была адмысловая правакацыя, сведчыць хаця б тое, што нібыта пацярпелы Сяргей Замай мінімум 7 разоў прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці – паведаміў ***Ігар Случак***:




- У суддзі загадзя быў падрыхтаваны прысуд, невядома для чаго мы рабілі гэтыя размовы ў судзе амаль гадзіну. У абласным судзе таксама быў падрыхтаваны адказ, суддзя матываваў тым, што ў гэтага чалавека, які ўзвёў на мяне паклёп, не было матыва хлусіць, бо мы з ім раней не былі знаёмымі. Гэта смешная матывацыя. Справа будавалася на паказаннях аднаго чалавека. Атрымоўваецца, што любога чалавека можна абылгаць і кінуць за краты, нічога не даказваючы. Гэта проста нейкі здзек над усёй прававой сістэмай Беларусі.

28 верасня суддзя Гомельскага абласнога суду Аляксандр Сужаеў адхіліў касацыйную скаргу Ігара Случака. Далей гэты прысуд хлопец збіраецца абскарджваць у надзорным парадку, цяпер ён будзе падаваць скаргу на імя старшыні абласнога суда. Калі і гэта не прынясе патрэбнага выніку – наступная надзорная скарга будзе накіраваная ў Вярхоўны суд Рэспублікі Беларусь. Ігар Случак лічыць, што нельга такія дзеянні прававой сістэмы Беларусі пакідаць без увагі.

*Васіль Кроква, Радыё Рацыя.*

*Крыніца: http://new.racyja.com/print/news/sluchak-pratsyagvae-abskardzh-vats-prysud-raennaga-suda-gomelya*




## Закон цяпер лічыцца з беларускамоўнымі. Папраўкі ў Закон РБ «Аб зваротах грамадзян»

*Іна ХОМІЧ*

***Аднойчы нам даводзілася ўжо пісаць пра персанальную кампанію Ігара Случака «Справаводства па-беларуску», якая закранула ўсю Беларусь, у тым ліку і Берасцейшчыну.***

Нагадаем, кампанія ставіла за мэту палепшыць хісткае становішча беларускай мовы шляхам лабіравання зменаў у дзейснае заканадаўства. Акрамя таго, Случак рассылаў у розныя дзяржаўныя ўстановы і органы лісты з прапановай перавесці афіцыйныя паперы на нацыянальную мову. Калі адказ прыходзіў на рускай, ініцыятар кампаніі накіроўваў адрасату новы ліст, на гэты раз з патрабаваннем адказаць на запыт па-беларуску.

Што за карысць ад перапіскі з дзяржорганамі? Вынік кампаніі – гэта ўнясенне паправак у Закон «Аб зваротах грамадзян», што адбылося 18 ліпеня 2011 года – дзень у дзень праз два гады ад пачатку кампаніі. Добрая нагода пагутарыць з самім Ігарам. Хоць ён праводзіць летнія вакацыі на радзіме ў Гомелі (вучыцца ў Эстоніі), скайп здымае праблему адлегласцей.

**– Ігар, патлумач, якія менавіта змены былі ўнесены ў**



**Закон?**

– Мы дабіваліся, каб адказ на пісьмовы зварот грамадзяніна даваўся на мове, на якой чалавек звярнуўся да чыноўніка. Па маёй задумцы гэта павінна было тычыцца толькі дзяржаўных моў, але дэпутаты напісалі проста: «Адказваць на мове звароту» (Артыкул 18 Закона). Таму, у прынцыпе, можна звяртацца на любой мове, і чыноўнік павінен будзе на ёй адказаць. Закон успупіць у дзеянне праз 6 месяцаў пасля яго падпісання, і я апавязкова звярнуся да каго-небудзь са зваротам на эстонскай мове, якой валодаю. Думаю, гэта будзе рэктар Мінскага інстытута кіравання Мікола Суша, які вельмі раіў мне павышаць культурны ўзровень і пашыраць кругагляд, калі я прапаноўваў даць мне адказ па-беларуску. Зараз праверым кругагляд прафесара.

**– З дэпутатамі лёгка было дамовіцца пра падтрымку?**

– Даволі лёгка, я б сказаў наогул без праблем, толькі крыху марудна ўсё рабілі. Асабліва добра кантактавалі мы з адказным за законапраект Яўгенам Мельнікавым.

# Закон цяпер лічыцца з беларускамоўнымі. Папраўкі ў Закон РБ «Аб зваротах грамадзян»

Тут трэба адзначыць, што мы ж уздымалі праблему ў СМІ і ў сацыяльных сетках, таму яна набыла грамадскі рэзананс (і даволі вялікі), і дэпутатам не засталося нічога іншага, як пазітыўна адрэагаваць на жаданне людзей. З 1995 года ў беларускамоўных былі толькі паразы, а зараз яны атрымалі даволі гучную перамогу, і я вельмі ганаруся, што прыклаў да яе руку.







**– Я так разумею, што адпачываць на лаўрах ты з аднадумцамі доўга не збіраешся. На што накіруеш высілкі далей?**

– Працягнем працу па лабіраванню зменаў у накірунку заканадаўчага замацавання рэальнага дзвюхмоўя ў Беларусі. У першую чаргу гэта будуць Законы «Аб мовах», «Аб нарматыўных прававых актах», «Аб рэкламе», «Аб абароне правоў спажыўцоў».

Ну вось, да прыкладу, праз увесь дзейсны Закон «Аб мовах» праходзіць выраз «на беларускай і (або) рускай мове». Мы ж прапануем ужываць фармулёўку «на беларускай і рускай мове», што паспрыяе захаванню інтарэсаў носьбітаў абедзвюх моў.

Каб падліць усё ж такі лыжку дзёгцю ў бочку з мёдам, заўважым, што на новым вітку змагання за афіцыйную беларускамоўную прастору ліставання з чыноўнікамі і кіраўнікамі рознага кшталту відавочна не хопіць. Разумее гэта і сам Ігар Случак. Таму і збірае вакол сябе актыўных людзей, каб наступная кампанія перастала быць персанальнай. Ёсць і першыя пацверджанні старой прымаўкі «гуртом лепш і бацьку біць» (на ўсякі выпадак удакладню: размова выключна пра галаву сямейства). Кожны тыдзень моладзь абірае ахвяру з тых, хто асабліва дэманструе сваё нежаданне звязвацца з беларускай мовай на працы (вылічыць такіх людзей па выніках кампаніі «Справаводства па-беларуску» працей прастога), і закідваюць яе лістамі якраз з прапановай пашырыць сферу ўжывання белмовы ў падуладнай для адрасата ўстановы. Згодна з законам, ахвяра мусіць на ўсе лісты адказаць. Вока за вока, зуб за зуб.

*Крыніца:*

*http://bk-brest.by/ru/87/society/2313/<br>*





# Боязнь диалога как симптом неуверенности в будущем системы.



*Игорь Случак*

27 августа 2011 года в Гомеле должен был пройти брифинг для журналистов и общественности на тему «Начало общественного диалога по реформе МВД» в рамках поднятой на сайте «Народной программы» темы «Милиция с народом?». На брифинг были приглашены журналисты государственных СМИ, а так же их коллеги из СМИ независимых, представители городских властей Гомеля, а так же руководители гомельских структур МВД. Ну и естественно простые жители Гомеля. Можно сказать, планировался мини круглый стол по одной из проблем Беларуси, о желании провести который декларируют власти, но в чьи декларации уже давно никто не верит.

В общем, планировалось мероприятие, которое кроме пользы для Беларуси и даже действующей власти, другой угрозы не несло. Так казалось нам, но система посчитала иначе.

Автор данной статьи был организатором вышеназванного брифинга, на протяжении месяца занимался его подготовкой и планировал быть его ведущим-модератором. Поэтому сейчас не вызывает удивления, что возвращаясь вечером 26 августа, накануне брифинга, он был задержан спецназом возле своего дома, обвинен в хулиганстве, до суда, который начался только 29 августа, провел трое суток в тюрьме, а 31 августа был признан виновным в хулиганстве и наказан арестом на трое суток, которые он уже отсидел.




Как несложно предположить, брифинг был сорван, что и было целью заказчиков этой провокации. Но какую цель они достигли проведением этой спецоперации по нейтрализации политических оппонентов?

Этим арестом они только притянули внимание СМИ, и не только белорусских, общественности и некоторых высоких политиков Европейского Союза к проблеме реформирования МВД Беларуси, к нежеланию любых дискуссий со стороны официальной Беларуси через удаление оппонентов путем репрессии и нарушения их конституционных и международных прав.

Брифинг, который мог пройти незамеченным даже для его участников сейчас активно обсуждается, как и сама проблема, которую планировалось поднять на нем, и не только она. Главный результат провокации это то, что было хорошо показано стойкое нежелание и непринятие, а также боязнь любых диалогов. Проще бросить человека в тюрьму, чем обсуждать проблему.

На нежелание и неумение системы вести любые диалоги, даже контролируемые, показывает и то, что на днях был распущен Общественно-консультативный совет при Администрации президента Беларуси, в который входили и некоторые оппоненты власти, но деятельность которого было полностью подконтрольна и неэффективна и не приносила реальной пользы по улучшению ситуации в Беларуси. Но даже такие стерильные и безопасные диалоги система уже вести не в состоянии, не говоря уже о диалогах, где могут быть подняты острые проблемы и по решению которых нужно давать конкретные предложения и проводить реальную работу.

Но тем не менее повод для оптимизма есть. Ни у кого из тех, кто был причастен к провокации по срыву брифинга не было замечено того блеска в глазах и уверенности в действиях, которые были у них при подобных обстоятельствах 2-3 года назад. Видно было, что у них уже нет абсолютной уверенности за свое будущее, в том, что не придется отвечать за свои поступки и в том, что все они делают правильно.

Свою «работу» они делали уверенно – задерживали, допрашивали, охраняли, судили, но в глазах уже уверенности не было.

Времена меняются, грядет смена эпох, и реформа МВД и не только, уже не за горами.

Неперыядычнае выданне
Інфармацыйны бюлэтэнь
"Гомельскія Навіны Кастрычник 2011 спецвыпуск-02"
Заснавальнік: Вольга Пыхава
Галоўны рэдактар: Гуан Карлас

246050, г. Гомель, вул. Пуліхава, 17,
рэдакцыя "Гомельскія Кастрычник 2011 спецвыпуск-02"
e-mail: GNavinki@gmail.com
Надрукавана на Папяровай фабрыцы "ГумНо",
г. Клінцы, вул. Мажаеўская, 17.
Тыраж: 250 асобнікаў.
Распаўсюджваецца безкаштоўна.